ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXIII № 318 — Нью Ёрк — Красавік — 1984 — April — New York — Vol. XXXIII № 318

## САКАВІКОВЫЯ УГОДКІ

**НЬЮ ЁРК**

Сьвяткаваньне 66-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі было, як і папярэднімі гадамі, ладжанае супольна галоўнай управай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, акругай БАЗА Нью Ёрк, управай аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзы ды Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. У першай палавіне сакавіка быў разасланы ўсім фэдэральным сэнатарам і вялікай частцы кангрэсмэнаў (галоўна ў тых штатах, дзе жывуць Беларусы й Амэрыканцы беларускага паходжаньня) ліст пра патрэбу ўвядзеньня беларускае мовы ў перадачы „Голасу Амэрыкі" (гл. „Беларус" №317: „Ліст БАЗА да кангрэсмэнаў"). Губэрнатар штату Нью Ёрк Марыё Кўомо і мэр Нью Ёрку Эдвард Коч выдалі да 25 сакавіка праклямацыі „Дня Беларускае Незалежнасьці".

У нядзелю папаўдні 1-га красавіка ў Мангатэне ў залі гатэлю Галорэн Гаўз адбыўся (у форме банкету) урачысты сход сяброў БАЗА, АБАМ і запрошаных гасьцей. Сьвяткаваньне адчыніў старшыня галоўнай управы БАЗА Антон Шукелайць. Зарок ляяльнасьці амэрыканскаму сьцягу сказала сп-чна Вера Запруднік. Айцец Аляксандар Яноўскі сказаў малітву ды прынагодна прачытаў верш Рыгора Крушыны (Казака) „Малітва эмігранта". Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць нядаўна памерлых беларускіх патрыётаў сьв. пам. Міколы Артона (Арцюха), Міколы Гумена, Язэпа Найдзюка, Язэпа Пітушкі.

З прывітаньнем ад Старшыні Рады БНР выступіў ягоны першы заступнік др. Барыс Рагуля, адзначыўшы непаслабную наважанасьць Беларусаў па цэлым сьвеце змагацца за свабоду Бацькаўшчыны.

**Кангрэсмэн Біл Грын**
(Фота Раі Станкевіч)

На сьвята прыбыў кангрэсмэн мясцовае акругі сп. Біл Грын, даўны прыяцель этнічных групаў. У сваёй прамове кангрэсмэн Грын гаварыў аб важнасьці перахоўваньня Беларусамі Амэрыкі гістарычных фактаў і культурных традыцыяў паняволенага беларускага народу.

Былі прачытаныя абвешчаньні „Дня Беларускае Незалежнасьці" губэрнатарам штату Нью Ёрк (чытала Вера Запруднік), мэрам гораду Нью Ёрк (чытаў Павал Рамана), губэрнатарамі штатаў Нью Джэрзы й Пэнсыльванія (чытаў Віктар Тур).

Сп. А. Шукелайць прывітаў прысутных на сьвяткаваньні др. Барыса Рагулю, першага заступніка Старшыні Рады БНР, др. Вітаўта Кіпеля, старшыню Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сп. Франьцішка Бартуля, старшыню Фундацыі ймя П. Крэчэўскага, маёра Сяргея Гутырчыка, старшыню Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Вэтэранаў у ЗША, сп. Канстантына Мерляка, старшыню Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня, паэта Масея Сяднёва й сп-ню Сяднёву, сп. Аркадзя Ліхача, якому таго дня споўнілася 81 год, ды пераказаў пісьмовыя прывітаньні ад Вярхоўнага Казацкага Прадстаўніцтва ды беларускіх арганізацыяў у вольным сьвеце: Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Згуртаваньня Беларусаў Канады, Беларускага Вызвольнага Фронту, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, аддзелу БАЗА ў Клііўленьдзе, сьвяткавальнага камітэту ў Лёс Анджэлесе, Беларусаў Аўстраліі, а таксама прывітаньне ад сп-ні Натальлі й Галіны Орса, якія не маглі прыбыць сёлета на сьвяткаваньне.

Сп. Багдан Андрусышын прачытаў урывак з кнігі ўспамінаў Антона Луцкевіча „За 25 гадоў" (Вільня, 1928) аб тым, як у гістарычную ноч з 24-га на 25-га сакавіка 1918 г. вяліся дэбаты вакол пытаньня аб незалежнасьці БНР ды як ідэя незалежнасьці перамагла.

PROCLAMATION

State of New York

Executive Chamber

On March 25, 1984, American citizens of Byelorussian descent will celebrate the 66th anniversary of the declaration of independence of the Byelorussian Democratic Republic.

The Czarist regime of the colonial Russian Empire collapsed in 1917 and its once subjugated nations immediately began the restoration of their independent states. Independence of the Byelorussian Democratic Republic was declared on March 25, 1918 in Minsk by the Council of Byelorussian Democratic Republic. It was not long, however, until the Kremlin, in opposition to independent Byelorussia, conquered the small country and installed their own puppet government.

New Yorkers of Byelorussian descent and their fellow citizens view with concern the human rights violations and oppression of democracy that is perpetuated by the Soviet Union in present-day Byelorussia. During its years of rule, the Soviet Union has continued to oppress the national character and spirit of this proud people.

It is fitting that New Yorkers join with their neighbors of Byelorussian descent in recognition of the indomitable spirit of freedom which remains alive in the land of their forebearers.

NOW, THEREFORE, I, Mario M. Cuomo, Governor of the State of New York, do hereby proclaim March 25, 1984, as

BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY

in New York State.

G I V E N under my hand and the Privy Seal of the State at the Capitol in the City of Albany this twenty-first day of February in the year one thousand nine hundred and eighty-four.

Mario M. Cuomo

BY THE GOVERNOR:

Michael J. Del Giudice
Secretary to the Governor

**Праклямацыя Дня Беларускае Незалежнасьці губэрнатарам штату Нью Ёрк Марыё Кўомо**

### УСПАМІН АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА

У Вільні мы ўжо ад 1915 году станулі на грунт дзяржаўнае незалежнасьці зямель былога Беларуска-Літоўскага гаспадарства і стварылі „Канфэдэрацыю Вялікага Княства Літоўскага", аб'яднаўшы на грунце ідэі незалежнасьці краю лепшых прадстаўнікоў дэмакратыі ўсіх чатырох нацыянальнасьцяў: Беларусаў, Літвіноў, Жыдоў і Палякоў. Дык, едучы ў Менск, мы ўжо былі падгатаваны да незалежніцкае канцэпцыі, якая ў нас знайшла была сваё выражэньне ў адпаведнай рэзалюцыі віленскае канфэрэнцыі 25-27 студзеня 1918 году. Наадварот, у Менску аб незалежнасьці ніхто адкрыта гаварыць не адважаўся, хаця сярод грамадаўцаў незалежніцкі кірунак быў ужо даволі сільны (Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Смоліч, Лёсік, Прушынскі ды інш).

Калі мы прыйшлі на паседжаньне Народнага Сакратарыяту, там якраз разглядалася справа пасылкі дэлегацыі ў Кіеў — з просьбай аб грашовую пазыку для Беларускае Рэспублікі. Скарыстаўшы з аказіі, я, перакінуўшыся некалькімі словамі зь Іванам (брат Антона Луцкевіча — рэд. „Б-са") і маючы ягоную згоду, папрасіў голасу і выясьніў, што праўна-дзяржаўнае палажэньне Беларускае Рэспублікі — дужа нявыразнае: яна лічыць сябе сябрам Расейскае Фэдэрацыі, але Расея яе за гэткага сябру ня лічыць. Да таго-ж спадзявацца дзяржаўнае пазыкі ад **незалежнае** Украіны нам, як **частцы Расеі,** бяз згоды цэнтральнага расейскага ўраду — юрыдычна немагчыма. Украінцы, ведама, могуць нам дапамагчы грашыма, але ня шляхам дзяржаўнае пазыкі, а проста ахвяры, — бо-ж хіба і яны першым чынам запытаюцца ў беларускіх дэлегатаў: ці-ж вы маеце права пазычаць грошы й даваць забавязаньні ад імя тэрыторыі, якая падлягае расейскаму цэнтральнаму ўраду? Я адзначыў неабходнасьць для Беларусі стануць на той самы грунт, на якім станулі ўсе другія вызваленыя народы, і абвясьціць поўную незалежнасьць Беларусі ад Расеі — хаця-бы на знак пратэсту проці аддачы Расеяй часьці Беларусі чужым — на Берасьцейскім міры. Маё выступленьне, горача падтрыманае Іванам і ўсімі сябрамі дэлегацыі, сустрэла спогад сярод сяброў Народнага Сакратарыяту. Варонка заявіў, што гэтае пытаньне трэба перш паставіць у Грамадзе, як у партыі, што мела тады абсалютную большасьць у Радзе Рэспублікі, — а калі там справа пройдзе памысна, дык тады адпаведны праект будзе ўраз-жа ўнесены Нар. Сакратарыятам на пленарнае паседжаньне Рады Рэспублікі.

Нас запрасілі на паседжаньне фракцыі Грамады, дзе мы сустрэлі цэлы рад зусім новых людзей, што нарасьлі ў працягу вайны й Рэвалюцыі. Пасьля абмену думкамі апазыцыя проці незалежнасьці ў асобе Макара Касьцевіча „здалася". Пры галасаваньні ўсе грамадаўцы выка-

**(Працяг на б. 2-й)**

## У ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Сёлета разам з 66-мі ўгодкамі абвешчаньня Акту 25 Сакавіка 1918 году спаўняюцца 120-я ўгодкі пакараньня сьмерцяй Кастуся Каліноўскага й 100-я ўгодкі выхаду часапісу беларускіх народнікаў „Гоман". Кастусь Каліноўскі ў газэце „Мужыцкая Праўда" і ў сваіх лістох да беларускага народу, а таксама „гоманаўцы" выказалі ідэі ды сфармулявалі асноўныя праграмавыя палажэньні, ужыцьцёўленьне якіх у роўніцы культурнай праводзілі нашаніўцы, а ў роўніцы палітычна-дзяржаўнай — дзеячы Рады БНР. Такімі-ж ідэямі ды пастулятамі кіраваліся беларускія патрыёты і ў гадох Другое сусьветнае вайны, бароначы права Беларусі на непадзельнасьць і нелазежнасьць.

У сёлетніх урачыстасьцях і ўгодках — прыкладам, пры адзначаньні падзеяў 40-гадовае даўнасьці — належалася-б прасачыць гістарычную цягласьць ідэі культурнага адраджэньня Беларусі ды ўзаемазьвязанасьць гэтае ідэі з рухам за дзяржаўную незалежнасьць. Як трапна адзначылі выдаўцы „Гоману" сто год таму: „Ня нізкі ўзровень культуры выклікае яе падпарадкаваньне, а, наадварот, падпарадкаваньне выклікае застой".

Застой, які назіраецца ў сучаснай культуры падсавецкае Беларусі, бязумоўна зьвязаны із станам падпарадкаванасьці Беларусі маскоўскаму цэнтру, вялікадзяржаўніцкаму цэнзурнаму нагляду. Душачы беларускую нацыянальную культуру, Масква здушвае гэтым і незалежніцкую думку. Таму цяпер асабліваха значаньня набывае сачэньне культурных працэсаў на Бацькаўшчыне. Будучы паінфармаванымі пра гэтыя працэсы ды інфармуючы пра іх вонкавы сьвет, мы здолеем лепш выконваць свой палітычны абавязак — памагаць беларускаму народу ў змаганьні за свае правы, за сваю свабоду, за Беларускую Народную Рэспубліку.

**Др. Язэп Сажыч, Старшыня Рады БНР**

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**да Ўсячэснага Сьвятарства і ўсіх Багалюбных Вернікаў БАПЦ**

„І Слова сталася целам, і пасялілася паміж нас" (Ян. 1:14).

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Дарагія Айцы й Вернікі нашыя, мы ізноў вітаем адзін аднаго гэтым радасным прывітаньнем у дзень сьвята ўваскрошаньня Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Каб уваскрэснуць, трэба было памерці запраўднай сьмерцяй. Але сьмерць Госпада ня была звычайная. Хрыстос зыйшоў на зямлю збавіць людзей ад граха: „Бо не паслаў Бог Сына Свайго на сьвет, каб судзіць сьвет, але каб сьвет збаўлёны быў праз Яго" (Ян. 3:17). Ён — Бог Слова — пасяліўся паміж нас, сярод нас абвяшчаў Евангельле валадарства нябеснага, навучаў нас любіць адзін аднаго. Ён навучаў нас любіць нават тых, хто ненавідзіць нас, любіць ворагаў сваіх, рабіць дабро ўсім (Мц. 5:44). Вось што наказваў нам Госпад: „Новае прыказаньне даю вам, каб вы любілі адзін аднаго, як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго. Па гэтым пазнаюць усе, што вы вучні Мае, калі будзеце мець любоў паміж сабою" (Ян. 13:34-35).

Усячэсныя Айцы духоўныя, датрымоўвайцеся навукі свайго найвышэйшага Пастыра-начальніка Госпада нашага Ісуса Хрыста. Шануйце адзін аднаго, праяўляйце спагаду, самі будзьце прыкладнымі ды сваю паству навучайце выбачаць адзін аднаму. Па ўчынках нашых няхай пазнаюць усе, ці мы запраўды вучні Хрыстовыя.

Ня ўсе тыя, што слухалі словы Госпада, уверавалі ў Яго й ня ўсе ўспрынялі Ягоную навуку. Нават адзін зь Ягоных дванаццацёх найбліжэйшых вучняў здрадлівым пацалункам выдаў Яго. Сын Божы, Госпад наш, быў вы[illegible]ны на зьнявагу. Ён, Нявінны, быў асуджаны і ўкрыжаваны. Гэтак мелася збыцца сказанае пра Яго, каб Ён Сваёй каштоўнай крывёй змыў наш грэх на крыжы.

Вялікая навіна, настаў цуд, **Хрыстос уваскрос!** Ён сьмерцяй паканаў сьмерць. Як сьвяты апостал Павал усклікае: „Праглынена сьмерць перамогаю. Сьмерць дзе джала тваё? Пекла! Дзе перамога твоя?" (1 Кар. 15:54-55).

Хрыстос уваскрос і даў перамогу над грахом, над злом, над сьмерцяй. Таму, што Хрыстос уваскрос, запраўдныя хрысьціяне — вечныя аптымістыя, бо яны ведаюць Хрыста. „У сьвеце будзеце мець гора, але будзьце адважныя: Я перамог сьвет" (Ян. 16:33), сказаў Госпад. Зазьзяла й Госпад наш уславіўся у ўваскрасеньні Сваім. „І Слова сталася целам, і пасялілася паміж нас і мы бачылі славу Ягоную, славу, як адзінароднага ад Айца, поўнае ласкі й праўды" (Ян. 1:14). А ў другім месцы Госпад кажа: „Я ўваскрасеньне й жыцьцё; хто веруе ў Мяне, хоць-бы памёр будзе жыць" (Ян. 11-25). Гэтыя словы Госпада абнадзейваюць нас, што нішто іншае не магло задаволіць нас.

У запраўднасьці раны, страты, беды й турботы надалей не пакідаюць нас. Але словы ўваскрослага Госпада няўпрыкмет даюць нам сілу ісьці наперад і запэўняюць нас, што сьмерць яшчэ ня мае апошняга слова. Сьвяты апостал Павал кажа: „Калі Бог за нас, хто супраць нас?" (1 Кар. 8:31).

Усячэсныя Айцы духоўныя й Дарагія Вернікі, калі любіце адзін аднаго, майце надзею на Госпада: „Бо Хрыстос уваскрос зь мёртвых, першаком з памерлых стаўся. Бо, як сьмерць праз чалавека, гэтак праз чалавека і ўваскрасеньне зь мёртвых, бо як у Адаму ўсе паміраюць, гэтаксама ў Хрысьце ўсе ажывуць" (1 Кар. 15:20-22).

Хрыстос запраўды ўваскрос, усе мы разам радуймася й весялемся: „Хрыстос уваскрос із мёртвых, сьмерцяю сьмерць паканаў і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў". Амін.

**Хрыстос уваскрос!**

Дадзена на Вялікдзень 1984 г.
Таронта, Канада.

**Пакорны ў Богу МІКАЛАЙ,**
**Архіепіскап і Першы Гіерарх БАПЦ.**

*Масей Сяднёў*

### *РАСКУТЫ ХРЫСТОС*
*(Санэт)*

*Няўжо другі Ён раз ускрос? —*
*дзівіліся і ніз і выш:*
*зыйшоў з крыжа Ісус Хрыстос*
*і голым безь Яго застаўся крыж.*

*Тут духам веяла сьвятым,*
*дзе на крыжы марнеў Збавіцель наш.*
*Прахожы тут спыняўся перад Ім,*
*ды болей тут Яго нямаш.*

*Спалохаўся вакольны люд —*
*ня бачыў ён такога ад вякоў.*
*Ці не найбольшы гэта цуд:*

*насьпеў з глыбіняў час —*
*Ён зьняў сябе з цьвікоў,*
*раскутым каб прыйсьці да нас.*

*Глен Коў, сьнежань 1983 г.*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.
**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў БЕЛАСТОЦКІМ КРАІ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЁЙ

**(Заканчэньне, пачатак і працяг у №№ 314-317)**

Кажуць таксама: беларуская мова не дарасла да таго, каб перакласьці ў яе Сьвятое Пісаньне ды ўсё іншае, патрэбнае духоўным асобам дзеля багаслужбы. А гэта вялікая няпраўда! Яшчэ ў 1722 годзе друкарня Супраскага манастыра апублікавала адпаведныя беларускія пераклады, праўда, пастарабеларуску. А ёсьць-жа Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква на Чужыне, беларускія пераклады ўсіх патрэбных дзеля багаслужбы кніжак, запісана традыцыя нашага маленьня. Трэба толькі хацець вярнуцца да свайго, забясьпечыць такім чынам будучыню праваслаўю тут і каб не дапусьціць да тае смутнае сытуацыі, калі яно зробіцца памалу верай варожай нашаму нацыянальнаму быту і таму зусім без значэньня, бо польскай. А мы ўжо гаварылі, што — стаўшыся Палякам, трэба-ж пераняць і ўсе тыя польскія амбіцыі. А амбіцыі польскія найлепей рэалізуе і будзе рэалізваць каталіцкі касьцёл, ксёндз, а не бацечка зь вечным кляймом "ruskości" і "niepolskiego pochodzenia chociaż Polakiem on już jest". Праваслаўны Паляк раней ці пазьней будзе яшчэ большым Палякам, і ён адчуе, што ягоны польскі дух ня мае поўнай рэалізацыі ў царкве, кепска ў ёй чуецца, а лепш у касьцёле. Ідэя аб'яднаньня каталіцтва з праваслаўем зьліквідуе і гэтую праблему: "Po co ten podział na takich i takich — wszyscy jesteśmy chrześcianami-Polakami". Канец, кропка. Ня будзе пра што далей гаварыць.

Вернемся на хвілю ў рэаліі перадваеннай Польшчы, якая, як ведаем, ня была ні рэвалюцыйнай, ні тым болей камуністычнай. Чаго дабіваліся тады пілсудчыкі і іншыя будаўнікі Польшчы, калі думалі яны пра нас, Беларусаў? Хацелі яны, каб праваслаўная царква зрабілася польскай, каб маліліся ў ёй адно папольску, і так далей. Трэба быць надта наіўным, каб думаць, што Пілсудзкаму ці Рыдз-Сьміглаву залежала гэтым самым на сіле ды моцы Сьвятой і Апостальскай. Якраз наадварот — на яе аслабленьні тым самым і, з дапамогаю польскае культуры (ватыканскай-жа!), поўным зьнішчэньні.

Польскія тадышнія ўлады найбольш ламалі сабе галовы над уніяцтвам у Галіцыі, бо сталася яно абаронцам украінскага народу там, і таму ніяк не ўдавалася польскаму нацыяналізму хоць-бы трохі паслабіць тую веру! Сёньня-ж бачым падобнае з каталіцтвам у Польшчы, якое ня мела-б нават дзясятай долі свае сілы, калі б ня вырасла яно на вялікага абаронцу нацыянальных інтарэсаў польскага народу. Гэта ў нічым не парэчыць хрысьціянскай істоце. Апосталы Кірыла і Мяфодзі, самі будучы Грэкамі, навучыліся-ж мовы славянскай і навучалі людзей славянскіх, чаго не зрабілі тадышнія лацінькікі, якія вельмі позна пакаяліся ў тым ды прызналі сваю памылку, свой грэх. (У часы Кірылы і Мяфодзія Славяне яшчэ не падзяляліся на Сэрбаў, Расейцаў, Рускіх, Палякаў, і т. д.. Мелі адну мову, пра што гавару для яснасьці, каб адразу не дапусьціць да непаразуменьняў ды дурных дыскусіяў, у рэзультаце невуцтва).

Ня кожнаму будзе прыемна чытаць гэта, але, урэшце, трэба-ж сказаць трохі тае праўды ў вочы!

***

І на заканчэньне — прачытаўшы ўсё тое, тут напісанае, робіцца неяк дзіка на душы. Думаеш сабе: А Божа-ж, ты мой Божа! У наш век, у нашу эпоху, трэба яшчэ дабівацца шанаваньня чалавека і ягонае мовы з боку не якогасьці паўцёмнага бюракрата, але нашых, кроўных нам, сьвятароў!? Дзе-ж гэта мы жывём, і якім правам мы маем адвагу і бясстыднасьць хваліцца, што людзі мы культурныя, цывілізаваныя; Мы-ж ўсё яшчэ ў сярэдніх вяках гразьнем, хоць у нашых кватэрах стаяць тэлевізары і лядоўнікі, а пад вокнамі самаходы добрых марак фабрычных, а і накормленыя мы, і даўно ня ведаем голаду ды холаду нашых дзядоў, якія хадзілі на паншчыну ў маёнткі, і жэнімся мы зь дзяўчатамі, якіх ня трэба перад шлюбам весьці нанач, у пасьцель разбэшчанаму пану, паводля права першаночы (prima noctis).

Мы цяперашнія людзі, але толькі з выгляду, мы лічым сябе Эўропаю, але гэта далёка няпраўда.

У нас фэўдальная псыхіка.

Мы яшчэ ня ведаем, што такое чалавек, бо мы ўсё яшчэ хочам панам быць, панства нам сьніцца. Хочам быць лепшымі, але каб ня ўсе — як можна быць лепшым, калі *няма горшых*? Ролю тых горшых мы пакідаем бацьком і дзядом нашым, якімі, папраўдзе, пагарджаем за іхную мову, няпанскую перад усім!

Мы і царкву хочам зрабіць панскаю, але не таму, каб ратаваць яе. Вельмі нам прыкра, што мы яшчэ праваслаўнымі і нам не хапае сьвінства, каб плюнуць на „рускі" крыж і пайсьці да паноў. Але мы тое зробім памалу, далікатней, — стаўшы напачатак Палякамі. А потым ужо ўсё адбудзецца беспраблемна . . .

Сказана тут нямала страшнага і вульгарнага. **Але праўдзіва.** Так многія з нас думаюць, менавіта так, хоць ня пішацца так, ня толькі таму, што цэнзура забараніла-б, але таксама і таму, што было-б, звычайна, брыдка нам гэтак публічна — як брыдка выйсьці голым на вуліцу, хоць усе добра ведаюць, што ёсьць у мужчыны, а што ў жонкі.

Ну, даволі гэтага псыхааналізу.

***

Ня прызнае нас Беларусамі каталіцкі касьцёл, а нават і ненавідзіць за тое, што аднак хочам быць сабою! З гэтым мы ўжо, як быццам, пагадзіліся, бо каталіцтва, фактычна, прыйшло да нас, у нашу існасьць, разам з чужацтвам, з Палякамі. Але-ж не прызнае Беларусаў і праваслаўная царква. Як ксяндзы, так і бацечкі нашы, — забыліся цалкам на запаветы апосталаў Славяншчыны, сьвятых Кірылу і Мяфодзія, каб ушаноўваць народы-„языцы". Адны заеліся рабіць нас менавіта Палякамі, другія — Расейцамі. Значыць: калі ты католік, дык абавязкова маліся Богу у ролі Паляка, ну а праваслаўны— гэта Расеяц. Хутка век будзе ад часу як палітычны сьвет урэшце прыняў наша нацыянальнае існаваньне: рэлігійны-ж — заядла яшчэ не!!! Ватыкан дазваляе на беларускія малітвы толькі вуніятам (няцяжка здагадацца, чаму). Праваслаўныя мясцовыя мітраполіі — па царскай традыцыі? — наагул ня хочуць бачыць беларускага народу. Вось адзін з абсурдаў цяперашняе эпохі!

Дзе-ж падзелася, так патрэбная нам, хрысьціянская міласэрнасьць ды спагада лёсу беларускага духу, усім, хто пакутуе ад прыйшлай дамінацыі?! Палітыканства закралася ў касьцёлы і цэрквы, у гэтыя Дамы Божыя, ператвараючы іх у экспазытуры антыбеларускіх патэнцыяў (пад пакрывам нібы апалітычнасьці). Помач дзеля здушанай беларускай культуры лічыцца — лезьці ў палітыку . . . А ці-ж ня большай тут той палітыкай — спрыяньне зьністажэньню беларушчыны? Глядзець во халодным вокам на тое, як гіне, паміраe (!) нацыя Беларусаў, пабарбарску шматаная нацыяналістычным чалавеканенавісьніцтвам! І каму Госпад Бог прабачыць тую бессардэчнасьць, абыякавасьць да таптанае гісторыяй ды злымі людзьмі іншароднымі малога і неўсямоцнага, як Палякі ці Расейцы, беларускага народу?!

Кастрычнік 1981 году.

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ

**(Працяг з б. 1-й)**

заліся за незалежнасьць, і гэтак справа на пленуме Рады Рэспублікі была забясьпечана.

І вось на скліканым адумысна паседжаньні Рады, якое пачалося ў 8 гадзін увечары 24 сакавіка і скончылася ў 8 гадз. раніцы 25 сакавіка 1918 году, — пасьля доўгае і ўпорнае барацьбы грамадаўцаў з расейска-польскай групай „земцаў" (самаўрадавых дзеячоў з Дэмідэцкім-Дэмідовічам, Ярашэвічам і Жылінскім на чале) Рада Рэспублікі вялізарнай большасьцяй галасоў абвясьціла незалежнасьць Беларусі, аб чым і была выдана адпаведная „Устаўная Грамата".

***

Далей у праграме сьвяткаваньня паэт Масей Сяднёў прачытаў адзін із сваіх новых вершаў — „Помнік славы".

З прывітальнай прамоваю выступіў на сьвяце сп. Альфрэд Гонг, старшыня Рады Рэспубліканскіх Этнічных Групаў у штаце Нью Ёрк.

Рэфэрат на тэму „Існасьць беларускага нацыяналізму" прачытаў др. Янка Запруднік. „Беларускі нацыяналізм у нявыкрыўленым сэньсе, — сказаў дакладчык, — гэта рэагаваньне ў кожны дадзены мамэнт на несправядлівасьць, гэта любасьць і абарона свайго ад пасяганьняў на яго чужынцаў. У гэтым якраз моц ды актуальнасьць беларускага нацыяналізму сёньня".

Саліст-тэнар Данчык (Багдан) Андрусышын вельмі ўдала выканаў пад гітару тры песьні, за што быў узнагароджаны гарачымі воплескамі. Танцавальны гуртор АБАМ „Васілёк" (17 асобаў) пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана завяршыў праграму сьвяткаваньня трыма танцамі, яшчэ раз прадэманстраваўшы прыгажосьць беларускіх народных скокаў ды выдатную рэпрэзэнтацыйную дзейнасьць беларуска-амрэыканскіх „васількоў".

**З.**

**ГАЙЛЕНД ПАРК, Н. ДЖ.**

У нядзелю 25 сакавіка стараньнямі парафіяльнае рады прыходу Сьв. Жыровіцкае Маці Божае БАПЦ (старшыня: сп. Аўген Дубяга) адбыўся ў прыцаркоўнай залі — па багаслужбе, адслужанай а. Аляксандрам Яноўскім — посны абедщ У часе яго былі адзначаныя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Рэфэрат на тэму „Незалежнасьць у сучасным узаемазалежным сьвеце" прачытаў сябра галоўнае ўправы БАЗА др. Янка Запруднік. Смачная ежа была нарыхтаваная, дзякуючы працавітасьці й кулінарыйным талентам сябровак сястрыцтва прыходу (старшыня: сп-ня Жэня Дубяга). Прыбытак з разыгранае лятарэі (білеты прадавала сп-ня Марыя Кажура) пайшоў на патрэбы прыхоху.

**З.**

**ЛЁС АНДЖЭЛЕС, КАЛІФОРНІЯ**

Сакавіковае сьвяткаваньне адбылося ў Галівудзе ў нядзелю 25 сакавіка ў залі Украінскае Каталіцкае Царквы й было наладжанае сьвяткавальным камітэтам у Лёс Анджэлесе. Праграму ўрачыстасьці, якая пачалася амэрыканскім гімнам, вёў сп. Часлаў Найдзюк. Была ўшанаваная памяць змагароў за беларускую незалежнасьць, упаасобку сьв. пам. Ларысы Геніюш, пад гукі малітвы „Магутны Божа".

Сп-ня Ядзя Найдзюк-Жэнэв'е прачытала прывітаньні, прысланыя на адрыс старшыні каліфарнійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскае Рэспубліканскае Фэдэрацыі ад губэрнатара Каліфорніі Джорджа Дукмэджэна, ад старшыні Галоўнае Рады Рэспубліканскіх Нацыянальных Групаў сп. Майкэла Сатыраса, ад штатавага сэнатара Робэрта Бэвэрлі ды асэмблімэна Гэральда Фэлянды.

Сп-ня Ю. Найдзюк прачытала прывітальную тэлеграму ад галоўнае ўправы БАЗА, прывітаньне ад Згуртаваньня Беларусаў Канады, ад Беларускае Цэнтральнае Рады ды Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, аддзелу БАЗА ў Кліўленьдзе, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі й прадстаўніка БККА на штат Каляраде сп. Хведара Шыбута.

Рэфэрат паангельску аб Акце 25 Сакавіка на фоне гістарычных падзеяў прачытаў Віктар Найдзюк. Ч. Найдзюк прачытаў часткі з успамінаў аб Беларускай Гімназіі ў Вільні зь „Летапісу Віленскай Беларускай Гімназіі", выдадзенага Ю. Жывіцам. У парадку інфармацыі быў прачытаны з газ. „Ніва" за 1 студзеня сёлета артыкул А. Барскага аб новым беларускім біскупу Ул. Тарасэвічу. З тае-ж газэты спня Ю. Найдзюк прачытала вершы Віктара Швэда „Бацькаўшчына" й „Мы, Беларусы". Праграма закончылася беларускім гімнам, а ўсё сьвяткаваньне — пачастункам з выконваньнем беларускіх народных песьняў.

**Н.**

**КЛІЎЛЕНД, АГАЁ**



**Жаночы хор „Васілёк" у Кліўленьдзе пад кіраўніцтвам Кастуся Калошы**




**Фрагмэнт мастацкае выстаўкі на сьвяткаваньні ў Кліўленьдзе, наладжанае сп-нямі Евай Яраховіч і Зорай Кіпель.**

Аддзел БАЗА ў Кліўленьдзе адзначыў 66-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 25 сакавіка. У царкве Жыровіцкае Божае Маці а. Міхась Страпко адслужыў малебен. У часе службы стаяла ганаровая варта зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі. Айцец Міхась сказаў патрыятычную казань.

Урачысты сход пачаўся адсьпяваньнем амэрыканскага гімну. Старшыня аддзелу БАЗА сп. Янка Раковіч прывітаў удзельнікаў сьвята і далейшае вядзеньне праграмы перадаў мгр. Васілю Плескачу. Даклад на тэму дня прачытаў др. Вітаўт Кіпель. Дакладчык прааналізаваў выказваньні пра Беларусь у Кангрэсе ЗША, як яны задакумэнтаваныя ў афіцыйным органе „Кангрэсавых Запісах" за апошнія сто гадоў. Калі да 1955 г. пра Беларусь у Кангрэсе згадвалася найчасьцей як пра геаграфічную адзінку, сказаў дакладчык, дык ад сярэдзіны 1950-х гадоў амэрыканскія заканадаўцы пачалі гаварыць пра змаганьне беларускага народу за сваю незалежнасьць, пачалі зьмяшчаць у „Кангрэсавых Запісах" гістарычна-палітычную інфармацыю пра Беларусь. Трэба думаць, зазначыў др. Кіпель, што беларускі незалежніцкі рух сказаў сваё слова ў Вашынгтоне. Др. Кіпель гаварыў таксама пра інсьпіраваныя Масквой апошнім часам паклёпы на беларускую палітычную эміграцыю — намаганьні савецкае прапаганды абнізіць эфэктыўнасьць беларускага незалежніцкага руху, асацыюючы яго зь гітлераўскім рэжымам на Беларусі ў часе акупацыі.

Ад мэра гораду Кліўленду Вайновіча вітаў удзельнікаў сьвяткаваньня яоны прадстаўнік сп. Вацлаў Гыўнар, які прачытаў праклямацыю аб „Дні Беларускае Незалежнасьці" ў Кліўленьдзе й вывешаньні беларускага сьцягу над будынкам гарадзкое ўправы.

З прывітаньнямі выступілі прадстаўнікі ад нацыянальных арганізацыяў Латышоў, Немцаў, Палякоў, Украінцаў, Чэхаў. Прамоўцы заклікалі да адзінства й салідарнасьці ў змаганьні супраць паняволеньня за вызваленьне паняволеных народаў спад камунізму.

Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч у сваёй прамове адзначыў важнасьць рэпрэзэнтацыйнае дзейнасьці беларускае эміграцыі, вялікае значаньне пашырэньня інфармацыі пра Беларусь, заклікаў падтрымваць Раду БНР у ейнай працы, а таксама ўзяць удзел у сёлетняй Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбудзецца ў Кліўленьдзе 1 верасьня.

У мастацкай частцы праграмы выступіў жаночы хор „Васілёк", які пад акампанімэнт Олі МакДэрмат (Дубаневіч) вельмі добра выканаў дзьве беларускія народныя песьні „Ручнікі" й „Я ад вас далёка".

Акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Варта адзначыць, што сёлета сакавіковая ўрачыстасьць была добра арганізаваная. Было больш прадстаўнікоў ад нацыянальных арганізацыяў. Добра падтрымалі нас суродзічы з Дэтройту сваім удзелам. Была наладжана выстаўка беларускага мастацтва ў залі сьвяткаваньня. Найбольшая газэта Кліўленду „Плэйн Дылэр" (23. III) зьмясьціла вестку пра беларускую ўрачыстасьць.

**К. П.**

**РЫЧМОНД ГІЛ, НЬЮ ЁРК**

Сакавіковае сьвята адзначалася тут у нядзелю 8 красавіка ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага. Ладзіла яго Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку. Багаслужбу прыгожа адслужыў а. Рыгор О'Кіфі. Людзей сабралася больш, як звычайна. Павялічаным хорам кіраваў сп. С. Жамойда. У часе малебну стаялі зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі К. Мярляк і Ул. Арашкевіч. Айцец Рыгор коратка сказаў аб сьвяце ды важнасьці адзначаньня яго.

Акадэмія, прысьвечаная сакавіковым угодкам, адбылася ў залі Грамадзкага Цэнтру, пад царквою. Праграму вёў сп. К. Мярляк, старшыня Аб'еднаньня. Урачыстасьць пачалася гімнам. Уступное слова сказаў сп. Мярляк. Хвілінаю цішыні ўшанавалі памяць палеглых.

Сп. Вінцэнт Мярляк прачытаў праклямацыі, якімі абвесьцілі „Дзень Беларускае Незалежнасьці" губэрнатары штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрзы ды мэр гораду Нью Ёрку. Як паінфармаваў сп. К. Мярляк, падобныя праклямацыі былі выданыя ў штатах: Канэтыкэт, Калярада, Пэнсыльванія, у горадзе Пуэблё, штат Калярада, ды гор. Саўт Рывэры, штат Нью Джэрзы.

**(Заканчэньне на б. 4-й)**

**БРАШУРА**

Нарыс „Праваслаўная Царква ў Беластоцкім Краі і беларуская мова ў ёй" будзе выдадзены асобнай брашураю для пашырэньня сярод тых, каму не давялося прачытаць яго ў газэце „Беларус".

# З НОВЫХ ВЕРШАЎ МАСЕЯ СЯДНЁВА

## АЙЧЫНА

Я апынуўся зноў на беразе другім,
што стаўся мне айчынаю адзінай.
Я прысягнуў яму жыцьцём маім
і песьняю маёю лебядзінай.

Я здабываў цябе за пядзяй пядзь.
Ты цьвёрдаю навукаю мяне вучыла.
Ня лёгка мне было цябе прыняць,
яшчэ цяжэй — назваць сваёй айчынай.

Бо іншая, бацькоўская мая
бесьперастанку біла ў маё сэрца.
„Пакінуў лёгка Бацькаўшчыну я".
мо скажа хто. Ня верце! —

Лячыўся ад яе, як толькі мог.
Праз сон яе ня раз я клікаў.
Яна і сёньня дзесь у тайніках
ляжыць пакутаю вялікай.

Яна мне залацісьцей усіх брам.
Я сьвята верыў у яе і веру.
Калі я гэты бераг і абраў,
ня значыць, што забыў я іншы бераг.

... Я апынуўся зноў на беразе другім,
што стаўся мне радзімаю адзінай.
Я прысягнуў яму жыцьцём маім
і песьняю маёю лебялзінай.

Нью Ёрк, травень 1983 г.

## ГРЭШНАЯ ДУША

Быцьцё як скончу сваё я —
ад думкі я такой згараю, —
я ведаю, душа мая
ня трапіць, грэшная, у царства раю.

Вялікі грэх ёсьць у мяне,
і я жыву ў штодзённай скрусе.
Я спавядацца прад людзьмі — о не! —
за гэты грэх баюся.

Ці можа зьняць яго рука чыя?
Ці адкуплю яго цаной якою?
Ня хочу ў ім прызнацца я
нат прад самым сабою.

Празрыста-лёгкая ад саматы
блукаць пачне душая мая ў сусьвеце.
Я ведаю, што не захочаш Ты
яе, бяздомную, прывеціць.

Ды, грэшная, наколькі сіл стае,
яна ўсё будзе у Тваёй арбіце.
І вечна у харомы сьветлыя Твае,
як матылёк, яна ўсё будзе біцца.

Глен Коў, люты 1984 г.

## СЫВІЛЫ

Шкада, ня сустрэў вас ні разу,
шчасьлівых абраньніц нябёс.
Натхнійшыся, ў божым экстазе,
маглі вы прадказваць лёс.

Парадай царом вы служылі,
ня раз ратавалі вы іх ад бяды.
А дзе-ж вы былі, сывілы,
як мучыўся я праз гады?

Як мне падразалі крылы,
як прахам валяўся я на зямлі?
Ці можа мяне вы забылі?
Ці мо прадказаць не маглі?

У сьвеце падземным Энэя
сывіла спагадна вяла.
Мне-ж рукі і ногі нямелі
і засьціла вочы імгла.

Са мной ня было сывілы,
і як набягала імгла,
мусіць, яна заблудзіла
і ў час прыйсьці не змагла?

Глен Коў, сьнежань 1983 г.

## ДУША

Настрояў ня люблю хаўтурных—
штось сьветлае ў душы я калышу.
З напластаваньняў дзённых, хмурых
ты вызваляй сваю душу.

Душа жыве, як мы, пад потам,
нацягнутая, як струна.
Пад гнётам суму і згрызотаў
пякельна мучыцца яна.

У сьне, ў дрымотным стане,
бывае, штось нас палысьне,
душы тады нясьцерпна стане,
і мы крычым спалохана у сьне.

А варта радасьці зьявіцца,
з вышы пасланай, як прывет,
тады ў душы, як у сьвятліцы,
займаецца блакітны сьвет.

Душа — нібы ў закутку вузкім.
Патрэбна болей ёй ціша.
Занадта моцнае нагрузкі
ня можа вынесьці душа.

Ня існуе дзён раўнамерных —
служы душы сваёй імшу.
Ад хваляваньняў неймаверных
ты зьберагай сваю душу.

Глен Коў, кастрычнік 1983 г.

## СЯСТРА

І сталася. І адыйшла ты.
Нябёсы узялі цябе ад нас
у сьветла-праведную хату
і для цябе сьвет гэты згас.

Пакінула ты ў ім пакуты
і ў іншым сьвеце будзе ўжо лягчэй
спачыць свабоднаю, раскутай
пад сьветлым позіркам Яго вачэй.

Забудзеш мо аб сваім горы,
аб днёх, што шчасьцем ня цьвілі.
Засьвецяць табе сонца, зоры,
што не сьвяцілі на зямлі.

Ды ты зямнога не забудзеш,
і сьвятлінёю сваіх воч
усё, турботная, ты будзеш
глядзець адтуль і дзень і ноч.

Ці ўсё тут, што ты пакідала,
ня горай, чым яно было.
І вечна будзе йсьці з аддаляў
твае журбы і дабрыні сьвятло.

Глен Коў, лістапад 1983 г.

***

Жыву цяпер я ў цёплай хаце.
Ня дзьмуць мне сіверы ні ў дзень ні уначы.
Пасьля таго, як я яго патраціў,
пачаў сваё жыцьцё я берагчы.

Малолася яно, бы ў млыне
на жорсткім камені — мука.
Як шквал, кудысьці час адхлынуў —
з парогамі грымлівымі рака.

Хаджу павольней. Нікуды ня рвуся.
Мой хлеб надзённы ў мяне ёсьць.
Ды ўсё ў сібірскай завірусе
ад холаду мая трасецца маладосьць.

Баюся — недзе абарвецца
жыцьцё на нейкім стыку год.
і ціха спыненае сэрца
больш не памкнецца напярод.

Глен Коў, лістапад 1983 г.

## АКІЯН

Заткнуў мне вушы акіян
сваім няспынным гулам.
Ад сьпёкі тут я акрыяў
і скончыў дзень прагулам.

Ня выдумаў я ні радка
і ўсё хадзіў па пляжы.
А ты чагосьці наракаў
і ўсё у бераг пляжыў.

Пясок прыбоем мокры цёр
і хлюпаў пенай пад нагамі.
Нябёсаў найблакітнейшы шацёр
дзень распасьцёр над намі.

Ляжалі ў розных позах мы
і не сароміліся дужа.
З канца ў канец, нібы дрыўмі,
людзьмі быў пляж загружан.

Увесь ты дзень у самаце
каціў навалу за навалай.
Разьюшаны, нібы хацеў
нас змыць магутнай хваляй.

Глен Коў, жнівень 1983 г.

## САНЭТ

In der Beschraenkung zeigt sich erst der Meister,
Und das Gesetz nur kan uns Freiheit geben.

Goethe

Даўно хацеў я ўзяцца за санэт,
ды у мяне няма на форму гэту ўменьня.
Калі бяруся за яго, натхненьне
зьнікае у мяне і я ўжо не паэт.
Ня чую музыкі тады плянэт —
сьціскае сэрца мне санэту форма.
Усякая накінутая норма.
адразу забівае у мяне імпэт.

Але калі адкульсьці з глыбіні
натхненьня зьявяцца агні,
яно само знаходзіць фому выражэньня
без асаблівае, натужнае пакуты.
Свабодны дух, зрадзіўшыся з натхненьня,
у ланцугі ня любіць быць закутым.

Глен Коў, сьнежань 1983 г.

## АРФЕЙ

Арфей — паэт, і сваім словам
умее сьвет заваражыць.
Сьпяваць на ліры азначае быць,
зноў нарадзіцца ў слове новым,
жывым зайсёды, адмысловым.
Захоплены пясьнярскай сілай,
ён сваёй песьняй лёгкакрылай
вітаньне шле палём, лясом, дубровам.

І слухаюць яго абшары,
сьвятлеюць, як ад нейкіх чараў.
Такое музыкі яшчэ ня чулі
загоны нашыя ў журбе вялікай.
Прыйшоў да іх з душою чулай
пясьняр Арфей — Сымон Музыка.

Глен Коў, сьнежань 1983 г.

## ЛЕБЕДЗЬ

Ступае й падае на лёдзе ён.
Хоць лапы прымярзаюць — хоча плысьці.
Шукае зь немачы ён выйсьця,
ды возера ўзяло яго у ледзяны палон.

Сячэ паветра ўзмахам крыл,
крыламі б'е ён сьнег і разьмятае.
Ды сіла ўжо ў яго ня тая —
з сваіх ён выбіўся ўжо сіл.

Ён марыў тут, калі была вясна,
калі у мройнасьці плылі яго часіны.
Калі ўсьміхалася яму яна,

ня думаў ён пра хату, пра павець,
і ў марах не стварыў краіны,
куды-б ад сьцюжы мог ён заляцець.

Глен Коў, сьнежань 1983 г.

## ПАПЯРЭДЖАНЬНЕ
("Warnung")
(зь Гётэ)

Як нашы скончацца апошнія хвіліны
у сьвеце гэтым нашым пад'ярэмным,
за слова кожнае, сказанае дарэмна,
у судны дзень адказ мы даць павінны.

Што будзе з словамі ўсіма маімі,
што я сказаў табе, каб падабацца?
Хоць, праўда, для цябе — мне саромна прызнацца —
былі яны ўсяго значэньнямі пустымі.

Падумай, любая, хоць на хвілінку ў скрусе,
што будзе на судзе страшным са мною
і як магу на ім стрываць пакуты я, нясьмелы:

калі-б я выбачацца і адказваць мусіў
за ўсё, што дарма балбатаў я прад табою,
цягнуўся-б судны дзень — год цэлы.

Глен Коў, студзень 1984 г.

## МОРА

Скалынула мяне: я падслухаў
скаргу мора ў сягоняшні мой прыход:
у бесьперапынным шквале і руху
стамілася мора за міліярды год.

Б'ецца ў бераг яно і ўсё плешча,
супакою няма для яго і сну.
Я пачуў яго голас вешчы:
„Я ня буду морам, калі засну".

І хвалюецца яно і б'ецца,
нат як сьцішыцца — дрожжу ідзе.
Ад пачатку якогась, здэцца,
супакою ягонай няма вадзе.

Яму зь вечнасьцяй не разлучацца —
налажыла яна на яго пячаць.
Мо таму так сумна чайкі,
узьлятаючы, над ім крычаць.
Супачыць-бы час, ды ня хоча,
таго часу ніяк ня відно.
Нясупынна ідзе ўдзень і ўночы,
ды нікуды прыйсьці ня можа яно.

Глен Коў, студзень 1984 г.

## ІТАЛІЯ
An Anneliese Rummelein

Яшчэ ўсё вітаю я
у прыгожай Італіі.

Я ня ведаю, чым яна —
не маёю-ж айчынаю —
мяне гэтак звабіла,
пэўна, тым, што быў з Вамі я.

Ні сарэнтамі, ні пампэямі,
ні сталіцамі абеімі.
ні вэзувіямі і ні Капры —
ня хлушу я ні каплі.

Спадабаліся мне пад небам бяздонным
італьянскія мадонны.

Я ніўводнай нацыі
ня бачыў такой грацыі.

Сьцеражыся хлапчына —
абпякуць вачыма.

А калі загавораць —
закалышыцца мора,
зь пераліваміі, напеўна —
вы такога ня чулі напэўна.

Пра каханьне і змову
няма лепшай мовы,
Хоць яе ня вучыў я
за сталом пры лучыне.

Але ейныя згукі
можна знаць без навукі.
Італьянак таліі
як таполі ў Італіі.

Вось таму ўсё вітаю я
у прыгожай Італіі.

Глен Коў, травень 1983 г.

***

Я з вандраваньняў толькі што вярнуўся,
Расчараваны, зноў імкнуся ўжо назад:
у неспакойнай, пачуцьцёвай завірусе
усё ў мяне ідзе ня ў лад.

Канца пакутаў ня відно мне —
мне іншая ўсё сьніцца далячынь,
дзе мог-бы я знайсьці, бяздомны,
сабе прытулак і спачын.

Там руху шмат, сьвятла і бляску,
там стройнасьць, звабнасьць, прыгажосьць,
там дыша ўсё надземнай ласкай,
душы там адпачынак ёсьць.

І верыцца — адтуль калісьці,
пасланы ёю, зьніч мільгне.
І тое радаснае прыйсьце
найбольшай асалодай будзе мне.

Глен Коў, кастрычнік 1983 г.

***

Я нездаволены самым сабой:
ня маючы, апроч сябе, нікога,
здружыўшыся з свёй журбой,
жыву я для сябе самога.

У гэтай спадарожніцы маёй
адзінае знаходжу суцяшэньне.
Хоць радасьць зазнаю у ёй
я толькі на адно імгненьне.

Зноў аддаюся я ў палон
маёй самотнасьці няўцешнай.
І да мяне яна, як і здавён,
вяртаецца пакутнай песьняй.

Я вызваляюся із саматы —
мяне такая ўзносіць перамога.
І здэцца — я жыву тады
ня толькі для сябе самога.

Глен Коў, студзень 1984 г.

## АМЭРЫКА ЦЯГНІКОМ

Цягнік наш не стамляўся ўсё ісьці
праз дні і ночы.
Амэрыку я прапусьціў —
усю праз свае вочы.

То дождж, то сонца, то імгла —
усё, што паказаць было магчыма—
усёю шырынёю праплыла
яна перад маймі вачыма.

Кружылася — канца няма —
праз рэкі бухала быкамі
і кідалася усіма
сваймі бакамі.

Палямі, лесам, трубамі, ракой,
пасёлкамі і гарадамі бегла.
Махаў я стрэчным станцыям рукой
і ў грудзі убіраў бясконцую адлегасьць.

Сьвяцілася душа мая,
і мне здавалася пры гэтым —
асобнаю зямлёй імчуся я,
што адарвалася і, непакорлівая,
кружыць па-за сьветам.

У цягніку Амтрак,
кастрычнік 1983 г.

***

З гадамі ўляжацца ўсё —
пакуты нашыя і хваляваньні.
Яны зацягнуцца заслонай, як той сон,
калі мы прачынаемся ураньні.

І зьнікне магія прыкрас,
іх выгляд будзе ўжо адрозны.
Да рашчараваных нас
прыходзіць позьні роздум.

Няўдачы, страты нашы ўсе,
як памяць іх адчыніць,
суправаджаем, нібы ў сьне,
задумнымі вачыма.

Як на забытай на струне,
замёрла часу сугалосьсе.
Ды раптам штосьці нас кальне,
зашчыміць, што йшчэ не ўлеглося.

Глен Коў, кастрычнік 1983 г.

***

Заўсёды мне чагосьці не хапае
у празаічнасьці майго быцьця:
штодзённае турботай накіпае
і ад яго няма мне забыцьця.

За мной, нібы нявольнікі якія,
ляглі мае гады-працаўнікі.
Ня ведаю, як вокам кінеш,
лагодным зь іх ці быў які.

У шэрым дні мае праходзілі адзеньні,
я іх, дзіравыя, як толькі мог, латаў.
І толькі ў сваіх мройных лятуценьнях
у сьвет прываблівы я думкай залятаў.

Сьвет звабнасьцяй сваёю поўны,
мой сьвет мігценьняў залатых,
сьвет хварбаў, музыкі чароўнай
як быццам патануў і сьціх.

Як быццам хто яго адціснуў
і ад яго я страціў ніць.
Як кожны дзень майго жыцьця, як існасьць,
хацеў-бы я той сьвет уваскрасіць.

Глен Коў, лістапад 1983 г.

## ДЗЕНЬ ПАМІНАК

я на могільнік з усімі пасьпяшаўся
на сьвята помінак — усіх сьвятых.
Да тых, хто адыйшоў, мы ставімся з пашанай
і сьвята беражэм мы вобраз іх.

Шкадуем мо, што пры жыцьці не шанавалі,
нячулымі, несправядлівымі да іх былі.
І коштам іх, надзеўшы маску жалю,
хацелі-б выкупіць мы грэх свой на зямлі.

Ды каяцца нам перад імі позна,
і я ня ведаю, ці йны даруюць нам.
Нам засталося толькі — зь мінай поснай
кадзіць па іх з кадзільніц фіміям.

Як мала іх мы на зямлі любілі!
І як цяпер шкада нам іх!
У мітусьні зямной, у поце, ў мыле
мы любім мёртвых болей, чым жывых.

Глен Коў, лістапад 1983 г.

## СКАРГА ХВАЛЯЎ

У задуме, адзін-адзінокі
выйшаў сёньня я на затоку.

Я ішоў, за маімі плячамі
узьнімаліся чайкі, крычалі

і з усёю сваёю сілай
як па страце якой галасілі.

А паўзбоку лагодныя хвалі
бераг, сінія, цалавалі.

Іхны пошум ціхі, гаварлівы
маіх ног датыкаўся прылівам.

Хвалі сталіся гнуткай пасьцеляй,
мне сказаць яны быццам хацелі:

„Бераг хвалямі мы хвалюем,
нібы вусны бераг цалуем.

але ён праз увесь наш век
застаецца халодны, не-чалавек.

„Падступаемся да яго мы бліжай,
языкамі сваімі ліжам,

(Заканчэньне на б. 5-й)

## УДЗЕЛ У ФЭСТЫВАЛІ

Сёлета 23-25 сакавіка Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ўзяло ўдзел у 6-м гадавым Славянскім Фэстывалі. Фэстывалі гэтыя ладзяцца ўжо колькі гадоў факультэтам славянскіх моваў Пэнсыльванскага Штатавага Ўнівэрсытэту (пад кіраўніцтвам праф. Л. Капітонавай). БАЗА й Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі бяруць удзел у фэстывалях. зладзілі ніжэй падпісаная й сп. Антон Шукелайць. На сталох былі разложаныя тканіны, ручнікі, інкруставаныя саломкай вырабы, тканыя паясы й дзяружкі, калекцыя лялек у народнай вопратцы, кнігі-альбомы зь беларускімі краявідамі, выданьні пра нацыянальнае й народнае мастацтва. Аб'ектам асаблівага зацікаўленьня былі выразаныя ў дрэве тры беларускія зубры, прысланыя зь Беласточчыны.

**Частка беларускае выстаўкі на Славянскім Фэстывалі ў Пэнсыльваніі**

На сёлетнім фэстывалі, апрача Беларусаў ад БАЗА, удзельнікамі былі Македонцы, Палякі, Расейцы, Славакі, Славэнцы, Сэрбы, Украінцы й Чэхі. Фэстываль меў багатую праграму з выстаўкамі народнага мастацтва.

Беларуская выстаўка была прыгожая й разнастайная. Выстаўку

Наведвальнікі з захапленьнем аглядалі нашыя экспанаты. Студэнты чыталі й перачытвалі інфармацыйныя тэксты. Як і папярэднімі гадамі, беларуская выстаўка карысталася ўвагай наведвальнікаў і гэтым удала выканала сваё прызначэньне.

**Р. Станкевіч**

### ЗЬ ВЕРШАЎ М. СЯДНЁВА

**(Заканчэньне з б. 3-й)**

*абдымаем яго мы ласкай*
*і пяшчотаю наскай,*

*але ён праз увесь наш век*
*застаецца халодны, не-чалавек.*

*..Уначы яму ціха шэпчам*
*аб прыгожым такім нечым,*

*тулімся усёю істотай сваёю,*
*але ён да нас — скалою.*

*Набяжыць адна з нас, другая*
*і, ударыўшыся, адбягае*

*зноў назад, у самае мора*
*ад такога гора".*

*Слухаў я. За маімі-ж плячамі*
*узьнімаліся чайкі, крычалі*

*і з усёю сваёю сілай*
*як аб страце якой галасілі.*

*Глен Коў, лістапад 1983 г.*

### ВІТАЕМ!

Беларускага гісторыка й журналіста **Паўла Урбана** з 60-мі ўгодкамі ад нарадзінаў, што споўніліся 27 сакавіка сёлета, ды зычым добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў асабістым жыцьці, а таксама ў прафэсійнай і грамадзкай працы.

**Рэдакцыя „Беларуса"**

### ПОШУКІ

**Саўчанка Ганна** шукае сына **Саўчанку Уладзімера,** 1927 г. нараджэньня, зь вёскі Старая Беліца, Уваравіцкага раёну, Гомельскай вобласьці. У 1943 г. быў вывезены ў Нямеччыну на працу і ад таго часу няма вестак. Ёсьць чуткі, што ў 1954 г. быў у Канадзе.

Маці просіць сына, каб адгукнуўся. Маці таксама просіць людзей добрай волі памагчы адшукаць ейнага сына. Весткі слаць на адрас:

Mr. M. Szwedziuk
21, Salisbury Rd.
Chorlton-Cum-Hardy
Manchester M21 1SJ England

## БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ У ПЭРЦЕ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)

Старанні дастаць дазвол на беларускія радыяперадачы пачаліся ў лютым 1983 году. З прычыны недакладнасьцяў у першай заяве, давялося пісаць паўторна. Аднача́сна з чаканьнем на дазвол рабіліся захады аб стварэньні беларускага радыёвага камітэту, выбары двух прадстаўнікоў у Этнічны Камітэт Радыяперадачаў ды — найважнейшае — шуканьне беларускіх кружкоў з музыкай і песьнямі, якіх тут немагчыма дастаць. Давялося зварачацца да ўсіх ведамых беларускіх асяродкаў па дапамогу.

На нашу просьбу першымі адгукнуліся сп-тва Жук-Грышкевічы з Канады, сп. сп. А. Міцкевіч, А. Сацэвіч і С. Карніловіч з Амэрыкі ды сп. М. Скабей з Мэльбурну ў Аўстраліі, за што складаю ім шчырыя беларускі дзякуй. Сп-тву Ніжнікам, Марозам і К. Чабатару вельмі дзякую за зразуменьне патрыятычнага абавязку й пазычаньне беларускіх кружэлак. Таксама шчыра дзякую сп-тву Дамброўскім за дазвол карыстацца памешканьнем. Дзякую усім, хто так ці інакш спрычыніўся да рэалізацыі радыяперадачаў.

Чаканьне нарэшце скончылася. 6-га лютага сёлета прадстаўніка Беларускага Радыёвага Камітэту выклікаў старшыня Этнічнага Камітэту Радыяперадачаў і паведаміў, што Беларусам далі дазвол да жніўня бягучага году весьці свае перадачы, а ў жніўні мае быць перагляд на прадоўжаньне. Радыяперадачы, было сказана, можам пачынаць 4. III. 1984 г. ў нядзелю а гадзіне 8-й увечары.

Па трох перадачах зь незалежных ад нас прычынаў зьмянілі час перадачы з 8-й гадзіны вечара на 4-ю папаўдні.

Праграмы на радыястанцыі можна рабіць на ісьцужцы або ўжывую. Паколькі ў нас толькі адзін сталы дыктар, ды заняты сваёй рэгулярнай працай, дык застаецца толькі другая магчымасьць — рабіць перадачы ўжывую, г. зн. чытаць адразу перад мікрафонам, а кружэлкі з адпаведным сьпісам патрэбных песьняў і музыкі даюцца апэратару.

Праграмы рыхтую сам. Матар'ялы атрымоўваю ад сп.сп. М. Скабея, Я. Запрудніка й Дамброўскага, за што вельмі дзякую ім.

Беларускую частку праграмы чытаю сам, а паангельску — Міхась Раецкі маладушы, які хоць працуе настаўнікам, але аддае частку свайго вольнага часу на беларускую справу, за што шчыра дзякую яму. Якасьць праграмаў паступова паляпшаецца, дыктару трэба крыху самаапанаваньня, але й гэта асягнецца.

Калі-б хто быў ахвотны прыйсьці з дапамогай, як дыктар, беларускія радыяперадачы й наагул беларуская справа ад гэтага скарыстаюць.

Пры гэтай нагодзе зьвяртаюся да беларускіх арганізацыяў з просьбай прысылаць навіны з жыцьця й дзейнасьці, каб выкарыстаць весткі ў радыяперадачах. Пішэце, калі ласка, на адрас:

Mr. M. Rajecki
37 Doust Str.
Cannington, 6107
W.A. — AUSTRALIA

**Міхась Р.**

### СЬВ. † ПАМ. ГАЛІНА ОРСА

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з глыбокім сумам паведамляе аб перадчаснай сьмерці 6-га красавіка 1984 г. на 54-м годзе жыцьця былое сакратаркі БАЗА й актыўнай сяброўкі беларускіх арганізацыяў у Нью Ёрку сьв. пам. Галіны Орса ды выказвае шчырае спачуваньне Маці й радні Нябожчыцы. Вечная ёй памяць.

### СЬВ. † ПАМ. ЯЗЭП ПІТУШКА

Адыйшоў у вечнасьць 25-га лютага 1984 г. на 72-ім годзе жыцьця. Пахаваны на магільніку Парк Лон у Таронце ў Канадзе. Асіраціў жонку Элеанору й сына Язэпа з унучкай.

Грамадзкую дзейнасьць пачаў на Бацькаўшчыне. Закладчык Згуртаваньня Беларусаў Канады, сакратар мастацка-выдавецкага клюбу „Пагоня", шматгадовы старшыня Беларускага Нацыянальнага Аб'яднаньня. Кавалер Крыжа Валечнага (змагарнага) і ганаровы палкоўнік Беларускае Краёвае Абароны.

**З сумам паведамляе сям'я.**

## СХОД БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ

У нядзелю 4 сакавіка сёлета адбыўся агульны перавыбарчы сход Беларускага Аб'еднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі. Сп. Янка Ролсан адчыніў сход, паінфармаваў сяброў аб тым, што было зроблена за двухгадовую кадэнцыю, ды зазначыў, што было ўкладзена шмат часу й працы, але была выдадзеная брашура паангельску пад заг. „Беларусь — зямля і людзі". Брашура падае асноўную інфармацыю пра Беларусь: геаграфія, жыхарства, нацыянальныя эмблемы, вызвольны рух ,беларускае жыцьцё ў Аўстраліі.

Скарбнік сп. Ул. Калесьнікові́ч зачытаў фінансавую справаздачу, якую рэвізійная камісія пацьвердзіла. Сход прызнаў, што праца ўправы была добрая. У новую ўправу ўвайшлі: старшыня — Я. Ролсан, сакратар — Ул. Акавіты, рэфэрэнт вонкавых сувязяў — К. Станкевіч.

Сп. Ролсан нагадаў, што 6-я Сустрэча Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі адбудзецца ў Адэляйдзе ад 5-га па 9-га студзеня 1985 г. ды што ўсе мусяць добра падрыхтавацца да прыйма гасьцей і забясьпечыць іх кватэрамі.

Далей сп. Ролсан паведаміў, што Беларускае Аб'еднаньне наладзіла ў памешканьні Этнічнага Цэнтру беларускую этнаграфічную выстаўку (якая працягнецца да 1-га траўня), на якой паказаныя лялькі ў нацыянальнай вопратцы, белавескія зубры, калаўрот, пацеркі, вышытая кашуля, саматканы пояс, выдадзеныя ў Паўдзённай Аўстраліі публікацыі, ды шмат іншых рэчаў. Шчыры дзякуй усім Беларусам за пазычаньня для выстаўкі экспанаты.



**Беларуская выстаўка ў Адэляйдзе (Аўстралія)**

Сход прыняў пастанову: на адзначэньне 150-гадовага юбілею Паўдзённай Аўстраліі, які прыпадае на 1986 год, пасадзіць шматгадовыя дрэвы ў вызначаным юбілейным камітэтам месцы ды заапекавацца імі, як дрэвамі беларускае этнічнае групы ў Паўдзённай Аўстраліі.

**Янка Яр**

## 6-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ У АЎСТРАЛІІ

адбудзецца ў Адэляйдзе, Паўдзённая Аўстралія

**ад 5-га да 9-га студзеня 1985 г.**

Усіх сяброў Фэдэральнае Рады, усё беларускае грамадзтва, мясцовых і замежных гасьцей, САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!!!

Закватэраваньне ўсім удзельнікам Сустрэчы будзе забясьпечане. У гэтай справе зьвяртацца, калі ласка, да

Mr. J. Rollson, Pres. O. C.
2/9 Anglers Court
West Lakes Shore, 5020 S. A., Australia
(Phone, after arrival in Adelaide. /08/491256)

**Праграма Сустрэчы:**

**Сыбота** (5. I) — Прыбыцьцё й закватэраваньне.

**Нядзеля** (6. I.) — 10:00 гадз. раніцы—пярэдадзень Раства Хрыстовага, багаслужба ў мясцовай Беларускай Праваслаўнай Царкве.
2:00 гадз. п/п — адкрыцьцё Сустрэчы, рэфэрат у залі пры царкве.
7:00 гадз. увечары — вячэрня, супольная Куцьця ў царкоўнай залі.

**Панядзелак** (7. I.) — 10:00 гадз. раніцы — калядная багаслужба.
4:00 гадз. п/п — канцэрт і пачастунак у залі на 5 Ўольтэр Ст., Табэртон.

**Аўторак** (8. I.) — Другі дзень Калядаў, у Байнайтэн парку пікнік на ўвесь дзень.

**Серада** (9. I.) — Трэйці дзень Калядаў, нарады 6-га зьезду ФРБАА. Пачатак а 10:00 гадз. ўраньні. Парадак дня ўстанаўляе ВК ФР.
Увечары—разьвітальны сяброўскі пачастунак (час будзе паданы на пікніку або раней Арг. К-там).

**Арганізацыйны Камітэт:**

Я. Рольсан — старшыня, К. Станкевіч — сакратар, М. Бурнос — сябра.

### СЬВ. ПАМ. НАДЗЕЯ ГРАДЭ-КУЛІКОВІЧ

19-га сакавіка 1984 г. ў Чыкага адыйшла ў вечнасьць Надзея Градэ-Куліковіч, таленавітая опэрная сьпявачка, якая амаль цэлае сваё эміграцыйнае жыцьцё вяла канцэртную дзейнасьць сярод нашых суродзічаў і чужынцаў, як высока кваліфікаваная, верная й няўтомная пашыральніца беларускай прафэсіянальнай музыкі й народнай беларускай песьні.

Адзнакай Надзеі Градэ было сьпеўнае выкананьне песьняў, ейны любоўны й чулы падыход да музычных твораў як у цэласьці, гэтак і ў дэталях. Майстэрства, музычнасьць і выразнасьць іх трактаваньня, асаблівая пяшчотнасьць і мяккасьць інтэрпрэтацыі лучылі сьпявачку із слухачом, прыносілі яму эстэтычную й нацыянальную асалоду.

У Чыкага, дзе Надзея Градэ пражыла больш за 25 гадоў, апрача выступленьняў перад беларускімі аўдыторыямі, сьпявачка давала канцэрты ў розных залях гораду, выступала перад студэнтамі амэрыканскіх каледжаў і часта была запрашаная адміністрацыяй чыкагаўскіх паркаў для салёвых канцэртаў на паркавых летніх пляцоўках, дзе разам з сусьветнай клясыкай, выконвала й нашыя цудоўныя беларускія песьні.

Надзея Градэ займалася таксама й вакальна-пэдагагічнаю працаю, перадаючы свой талент і дазнаньне маладым пачынаючым мастаком, а сталым удзелам у сьвецкіх і царкоўных хорах дапамагала харыстам у набыцьці музычнай і сьпеўнай культуры.

Яе добра ведаюць беларускія асяродкі ў Нью Ёрку, Дэтройце, Клўіленьдзе ды іншых гарадох, дзе яна цірз канцэртавала. Была яна госьцяю і ў Беларусаў Канады.

Нябожчыца, разам із сваім мужам сьв. памяці кампазытарам і музыкалёгам Міколам Куліковічам, была захавальніцай і распаўсюджвальніцай нашых нацыянальных музычных і мастацкіх традыцыяў тут на чужыне. Быў гэта цяжкі, але й пачэсны жыцьцёвы шлях іх абаіх.

Перад адыходам у вечнасьць амаль у 15-ю гадавіну сьмерці кампазытара, верная і старанная перахавальніца ягонае музычнае й літаратурнае спадчыны, сваім апошнім тэстамэнтам сказала перадаць яе на перахаваньне Музэю й Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане.

Паховіны Надзеі Градэ адбыліся ўрачыста. 22-га сакавіка ўвечар сабралася вялікая колькасьць Беларусаў у пахавальным доме Васіля Музыкі, дзе Яго Дастойнасьць Біскуп Уладзімер з айцом Эдвардам і царкоўным хорам адслужылі паніхіду, якую закончыў Уладыка чулай прамовай. На другі дзень Уладыка Уладзімер у суслужэньні айцоў Эдварда Вайцяхоўскага і Язэпа Сіру адправіў урачыстую багаслужбу ў царкве Хрыста Збаўцы, на якую зыйшлася грамада Беларусаў і прыяцеляў, ды правеў Нябожчыцу на магільнік Сьв. Вайцеха, дзе яна спачыла каля свайго мужа Міколы Куліковіча.

Вечная памяць ім абаім!

**А. Б.**

### НА ВЫСТАЎЦЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

На выстаўцы ў Славянскім аддзеле Ньюёркаўскае Публічнае Бібліятэкі, прысьвечанай апошнім лепшым набыткам аддзелу, паказаная й кніжка М. Раманюка „Беларускае народнае адзеньне" (Менск 1981). Выстаўка трывала ад сярэдзіны сакавіка сёлета да пачатку траўня.

BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.25, subscription $12.00 per year.

# BYELORUSSIAN INDEPENDENCE MARKED IN U.S. CONGRESS AND CANADIAN PARLIAMENT

### SENATOR ALFONSE D'AMATO
of New York

Mr. President, on March 25, 1984, we commemorated the 66th anniversary of the establishment of the Byelorussian Democratic Republic by the Byelorussian National Council.

The roots of independence and nationalism grow deep in the soil of Byelorussia; the Byelorussian principalities of Polotsk, Smolensk, and Turov served as the core of the Grand Duchy of Lithuania. In 1569, the Grand Duchy and Poland were joined to form a commonwealth.

The partition of the commonwealth between 1772 and 1795 brought Byelorussia into the Russian Empire. During this period, the people of Byelorussia were subjected to the czarist policy of russification, which was designed to eliminate their unique culture. In 1863, a massive anti-Russian uprising was led by Kastus Kalinouski. This significant event clearly demonstrated the desire of the Byelorussian people to live in peace. Their struggle for independence continued.

With the declaration by the National Council in Minsk on March 25, 1918, the Byelorussian people regained the independence, which they had so bravely fought to achieve. Unfortunately, Byelorussian sovereignty was short lived.

The Communist regime, in a blatant act of aggression, seized power in Byelorussia and brought to a tragic end the independence and prosperity which the Byelorussian people had enjoyed. The Soviet Union illegally annexed the free and independent Byelorussian Democratic Republic. Since this incorporation, the freedom-loving people of Byelorussia have been subjected to some of the most brutal forms of oppression instituted by the Kremlin.

Under Stalin, Krushchev, Brezhnev, Andropov, and the new party chief, Konstantin Chernenko, thousands of Byelorussians have been slaughtered, deported, exiled, imprisoned in slave labor camps, or committed to psychiatric institutions. Meanwhile, the Soviet Government has repeatedly, and ironically, voiced its support of such important documents on human rights as the U.N. Universal Declaration of Human Rights and the Helsinki Final Act.

In addition, these ruthless dictators have continued to follow the policy of russification first implemented by czarist Russia. Accordingly, they have attempted to eliminate every vestige of Byelorussian culture and national identity, including the native language, religion, art, and music.

Despite Soviet denial of even the most basic of human rights, however, the people of Byelorussia have struggled heroically in their efforts to break the chains of Soviet domination. Their steadfast belief in the principles of independence and their deep-rooted desire for freedom have enabled Byelorussia to endure Communist oppression.

The free spirit of the Byelorussian people will not be broken. Their search for self-determination will continue.

On March 25, Byelorussians throughout the world, including the more than 1 million Byelorussian-Americans living in our Nation, joined in solidarity with their countrymen in observance of Byelorussian indepenence. In light of our Nation's dedication to the principle of independence and our commitment to protection of civil liberties, it is appropriate that we commemorate the 66th anniversary of Byelorussian independence. It is imperative that the United States send a clear and strong signal of moral support to the 10 million Byelorussians living under Soviet tyranny and that our Government continue to champion the cause of independence for Byelorussia.

**Congressional Record, vol. 130, N. 39, March 29, 1984**

### SENATOR ALAN DIXON
of Illinois

Mr. President, Sunday, March 25, marks the 66th anniversary of the Declaration of Independence of Bielarus. On that day we remember that nation's tragic history. Sadly, this history continues to be written. The captive nation of Bielarus faces a constant denial of self-determination and national liberty.

Efforts in the direction of restored Bielarusian independence begin with a recognition of the grave injustices perpetrated against that nation. We refuse to acknowledge Bielarus as a Soviet republic. We persist in condemning the denial of political and religious liberties in this illegally occupied nation. It is our hope that these expressions of support reach the Bielarusian people. They must be reminded of our respect and admiration.

Incessant Soviet attempts to eradicate the Bielarusian national identity challenge the language, history, and religious beliefs of these people. Publications in the native language are banned. School children face a Soviet-imposed curriculum, with classes conducted in the Russian language. The religious values held sacred by these people are repressed. Educational and occupational opportunity is denied those who fail to embrace this russification.

We should continue to demonstrate our support for that imprisoned nation as long as the Soviet Government continues to deny Bielarus its inalienable rights. The moral support we render these brave people strengthens their will to resist. I wish to congratulate those Bielarusian-Americans who focus on the terrible situation their countrymen face. Their efforts are certainly needed.

**Congressional Record, vol. 130. N. 37, March 27, 1984**

### CONGRESSMAN FRANK ANNUNZIO
from Chicago, Ill.

The SPEAKER pro tempore. Under a previous order of the House, the gentleman from Illinois (Mr. Annunzio) is recognized for 5 minutes.

● Mr. ANNUNZIO. Mr. Speaker, on March 25, 1918, 66 years ago, the Bielarusian people established their own government and proclaimed their independence, and I am privileged to join with all freedom-loving people in commemorating this special day in man's historic struggle for freedom and human dignity, and this important date in the distinguished history of Bielarus.

In commemorating this 66th anniversary of the declaration of independence of Bielarus, the Bielarusian Coordinating Committee of Chicago will hold a solemn observance at the Regency Inn, 5419 West Diversey Avenue, in Chicago, at 12:30 p.m., on Sunday, March 25, and I send my greetings to all those participating in this important commemoration.

The Bielarusian Coordinating Committee of Chicago is also sponsoring an exhibit at the Richard J. Daley Center in Chicago, from March 19 through 31, in conjunction with this commemoration, which includes various Bielarusian memorabilia, crafts and art items, a stamp collection, cross-stitch embroidery, dolls, and Easter eggs, as well as pictures portraying Bielarusian culture and landscape.

Sadly, Bielarus has been almost completely cut off from the rest of the world by the heavy presence of the Soviets, who have attempted to systematically assimilate the Bielarusian people, and wipe out their past, their culture, and their laguage. Nevertheless, the courageous men and women of Bielarus continue to stand up to the Communists and oppose these efforts.

The Bielarusian Coordinating Committee of Chicago has issued a statement regarding the cruel occupation of Bielarus by the Soviets, and the numerous human rights violations committed by the Communists, and that statement follows:

STATEMENT REGARDNG HUMAN RIGHTS VIOLATIONS IN BIELARUS/BIELARUSIA BY MOSCOW

Bielarus, which is one of the fourteen non-Russian republics in the Soviet Union, is one of the most isolated and unaccessible nations in the world. Despite membership in the United Nations and large size (Bielarus is bigger territorially and population-wise than the three Baltic States combined together), Bielarus has not yet acquired recognition. Her story has yet to be told. It is not the fault of the Bielarusian people that the Free World knows so little about them. Soviet Russia, on one hand, suppresses all necessary information about them. The West, on the other hand, shows very little interest in them. This is a very tragic situation indeed because so little attention has been given to the Bielarusian people and their sufferings.

Despite the fact that very scanty information reaches the West from Bielarus, some valuable data can still be obtained through personal contacts with persons who visit Bielarus, with those who visit here, occasionally a letter will shed some light, and on other occasions the Soviet Bielarusian press reveals something. Though the facts are authentic, it is impossible to reveal the names, and especially the locations, in order to protect the innocent ones against their imprisonment.

There is no open organized opposition in Bielarus today to Soviet violations of human, civil, religious and national rights. That does not mean that the people agree and support the Soviet government. It also does not mean that they do not suffer or that their sufferings are minimal as compared with those in the Baltic Republics or the Soviet Jews. From the latest reports we have learned that people in Bielarus live in great and constant fear and dissatisfaction. Any criticism against the system puts one behind bars or in a psychiatric asylum. Some individuals, who dared to challenge the system and spoke their convictions, have been prosecuted and dealt with very harshly.

The following cases of dissent and human rights violations in Bielarus have been documented and are worthy of our attention:

(1) Presently there should be some eighty cases in Bielarus. The most notorious case is that of Michal Kukabaka (Mikhail Kukobaka according to Russian records). He is 46-year old Bielarusian prisoner of conscience, whose only crimes are his desire to express his opinions and practice his religion freely. Kukabaka was first arrested in 1970, was rearrested and held in prisons, labor camps and special psychiatric hospitals ever since. Presently he is confined to strict regime labor camps at Elets. He is yearning to gain freedom and leave the Soviet Union forever. He needs our help and I know that it can be extended to him. The Amnesty International in England is working on his behalf and even Prime Minister Margaret Thatcher has shown interest in him. We also want our United States Government to speak on his behalf, urging the Soviet Union to release him from imprisonment and allow him to leave the Soviet Union.

(2) Moscow violates religious rights of the Bielarusians. Bielarus has 10,000,000 inhabitants today. Out of this number 7,000,000 are Orthodox, 2,500,000 are Catholics and the rest are Baptists, Methodists, Lutherans, Evangelicals and Jews. None of the aforementioned are allowed to worship freely. The Bielarusian Orthodox are completely dominated by the Russian Orthodox Church. The hierarchy and the priests are mostly Russian and the sermons are said in the Russian language. There are no religious publications in the Bielarusian language. The Russian Orthodox Church, the tool of the Russian Soviet KGB, is working toward assimilating the Bielarusians into the Russian nation.

The Catholics are not allowed a higher hierarchy or seminaries in Bielarus. There are only 25 Catholic priests in Bielarus today and some of them are very old and ailing. As soon as a priest dies, his parish closes down and no replacement is allowed.

Only children of pre-school age are allowed to attend church with their parents. School children, who attend church, are taken away from their parents or are subjected to corporal punishment. Teachers, if caught attending church service, are relieved of their employment. Despite the terror, parents still see to it that their children get baptized secretly and secret religious marriages are performed at nighttime. The most active resistants of the religious persecution in Bielarus are the Bielarusian Baptists of whom there are 100,000. It has been estimated that some 60 Bielarusian Baptists are imprisoned today.

The churches, which had been closed a long time ago are being renovated now and made into museums, club houses and other civic facilities.

The church structures, which still exist as churches, are government property and cannot be photographed inside or out without the permission of the Soviet government.

(3) The Soviet government practices letter censorship. A letter sent to relatives in Bielarus from the United States during the Soviet invasion of Afghanistan asking among other things, "If any of the village boys had to go to war," was never received by the addressee. Letters written in the Bielarusian language often do not reach their destination in the West, but those written in the Russian language never fail to arrive.

(4) Moscow deprives the Bielarusian people of their national rights. The Bielarusian patriots everywhere are very unhappy that Moscow, without their approval, introduced them to the world under the Russian name — Belorooseeya. This name was transliterated into English as Bielarusia. The Bielarusians feel that they should be known to the outside world under their own original name — Bielarus, pronounced Bye-lah-roos. "Those of you who are free should promote our original name" plead the Bielarusian Soviet patriots.

Bielarusian children have been deprived of an education in their native tongue. All schools utilize the Russian languave in the curricula, with the exception of some in the countryside. However, the latter are also being replaced with Russian schools. As soon as some Russian official is sent to supervise a collective or state farm, the Bielarusians must go along with the wishes of the Russian. Upon his insistence the Bielarusian curricula in the school in his particular area is dropped and replaced with the Russian language of instruction.

There are no post cards, posters or slides with Bielarusian motifs and no Bielarusian-English and English-Bielarussian dictionaries for the use by the Bielarusians in the Soviet Bielarus and in the West. We have been told that such dictionaries are ready for publication, but that Moscow will not give permission to print these.

(5) Moscow imposes Russian culture on the Bielarusian people. A recent visitor to Soviet Bielarus was shocked to find that in Minsk, the capital of Bielarus, all books, magazines, records and musical notes are all Russian and nothing Bielarusian was in sight. She wanted to buy notes of Bielarusian songs and music for different instruments. The people spoke the Russian language everywhere and it seemed to her that Russians succeeded in russifying the Bielarusian cities.

Mr. Speaker, I take this opportunity to join Americans of Bielarusian descent in the 11th Congressional District of Illinois which I am honored to represent, and all over this Nation, as they celebrate this 66th anniversary of Bielarusian independence, and I share their hope that one day the courageous people of Bielarus can enjoy the blessings of freedom and national self-determination.

**Congressional Record, vol. 130, N. 33, March 20, 1984 and N. 34, March 21, 1984**

## STATEMENT IN CANADA'S PARLIAMENT BY SENATOR PAUL YUZYK

Thursday, March 22, 1984

**BYELORUSSIA**
Sixty-sixth Anniversary of Proclamation of Independence


**Hon. Paul Yuzyk**

Honourable senators, for several years we have been paying tribute in the Senate chamber to national groups in Canada on the occasion of their national holiday. It has now become customary to mark such occasions for the Irish, Scots, Ukrainians, Estonians, Latvians, Lithuanians, Italians, Poles, and sometimes others. Today we paid tribute to the Greeks. This symbolic feature helps to characterize the Senate as a defender of the rights of minorities, together with the rights of majorities.

Today I am drawing the attention of honourable senators to one of the small ethno-cultural groups, namely, the Byelorussian Canadians, the bulk of whom came to this country after World War II. The Byelorussians are of Slavic origin, with a distinctive culture and language which has some similarities to their neighbours, the Russians, Ukrainians and Poles. Today their country is a Soviet republic, with representation in the United Nations.

However, the aspirations of the Byelorussians in their homeland were directed to freedom and independence. During the interval, when the Tsarist Russian empire crumbled and the Russian communists, led by Lenin, gained control of the government in Petrograd and Moscow in 1917-18, most of the non-Russian peoples proclaimed their independence and established their own republics. The Ukrainians were the first, on January 22, 1918, and they were immediately followed by the Estonians, Lithuanians and others. The Byelorussians proclaimed their freedom and independence on March 25, 1918, establishing the Byelorussian National Republic. There was great rejoicing throughout the country at that time.

Their freedom and independence, however, were short lived, unlike the Baltic nations which received recognition from the Western powers and maintained their democratic states until 1941, when they too were overrun by Soviet forces. The superior Russian communist forces, because of the proximity, crushed the independent, democratic Byelorussian Republic in 1919 and incorporated it into the Soviet system, as was done with Ukraine in 1920. Patriotic Byelorussians were massacred, hundreds of thousands were sent to forced labour camps in Russia and Siberia, and few were able to escape to freedom.

During the Second World War, Byelorussia suffered tremendously from the ravages of war and the Nazi and Russian armies. There was large-scale destruction of life and property. Some Byelorussians succeeded in fleeing to freedom. Several thousand found their way to Canada, where they have proven to be constructive citizens, participating fully in all aspects of Canadian life.

These free Byelorussians continue to celebrate their independence day every March 25, which this year falls on Sunday next. This will be the sixty-sixth anniversary. I am sure that all honourable senators will heartily join with me in conveying to them our congratulations and best wishes for success in their new life in Canada and the fulfillment of their greatest aspiration, namely, the freedom of their motherland.

**Hon. Senators:** Hear, hear.

### IN THE MATTER OF VOICE OF AMERICA

The Byelorussian-American Association has received favorable replies from the members of the U.S. Congress to its letter asking for support in introducing Byelorussian-language broadcasts into the Voice of America programs. Appreciation for B.A.A.'s request was expressed by: Senators Strom Thurmond, Charles H. Percy, Arlen Specter, Alfonse M. D'Amato, Ernest F. Hollings, Gary Hart, Ordin G. Hatch, Christopher Dodd, Edward Kennedy, and Congressman Dante B. Fascell.

Members of the B.A.A. and readers of **Bielarus** in general are urged to continue writing to their congressional representatives informing them of the need to add to the Voice of America programs the language of ten million Byelorussians.